# ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ

## Зянон ПАЗЬНЯК

Над будынкам Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў Беларусі разьвіваецца бел-чырвона-белы сьцяг, які ўзвышаецца над чорным бетаніраваным бальшавіцкім гербам БССР. Тут жа плошча Незалежнасьці, на якую сьлепа ўзіраецца чорная скульптура бальшавіцкага злачынцы № 1—Ульянава-Леніна. Калі вы зойдзеце ва ўрадавы гмах незалежнай Рэспублікі Беларусі, то ўбачыце там мноства дзяржаўных чыноўнікаў, пішучых, гаворачых і думаючых па-расейску, якія зьдзівяць вас непрыхаванай нянавісьцю да незалежнай Рэспублікі Беларусі. У калідорах вы спаткаеце шмат вайсковых афіцэраў беларускага войска з камуністычнымі эмблемамі на кукардах, у пятліцах, з чырвонымі зоркамі, сярпамі і молатамі і т. п. Не раю вам да іх зьвяртацца, бо яны дрэнна разумеюць па-беларуску і ня любяць суверэнітэту. Калі вы загаворыце з абывацелямі на вуліцы, то даведаецеся, што ўсе жывуць у рынку, але ўсё дзяржаўнае. Што камуністы ва ўладзе, але ва ўсім вінаватыя дэмакраты і г. д.

Што за абсурд? Што за парадоксы?—спытаў бы той, хто ўпершыню прыехаў у Рэспубліку Беларусь. Аднак гэты абсурд—самая што ні ёсьць рэчаіснасьць. Паглядзім жа як яна ўтварылася.

Камуністычная сістэма ўлады на Беларусі была асабліва разбуральнай і асабліва антынароднай. Тым ня менш у жніўні 1991 года пасьля правалу камуністычнага путчу ў СССР маладая беларуская дэмакратыя здолела дамагчыся незалежнасьці Беларусі, спыненьня дзейнасьці КПСС, адстаўкі наменклатурнага старшыні Вярхоўнага Савета. Аднак уся сістэма ўлады, усе яе структуры засталіся ранейшымі ў руках антынацыянальнай камуністычнай наменклатуры. Не адбылося вельмі неабходнага—выбараў новага парламенту і стварэньня новага дэмакратычнага ўраду. У гэтым прычына адсутнасьці канцэпцыі незалежніцкай дзяржаўнай палітыкі Беларусі і залежнасьці пазіцыі Рэспублікі ад падзеяў у суседняй Расеі.

У галіне палітыкі наменклатура трымаецца артадаксальнага камуністычнага кансерватызму. Ніякіх пераменаў. Галоўнае захаваць сваё статус-кво, сваю ўладу, кадры, кантроль над фінансамі, друкам, эканомікай. Культура яе не цікавіць. Ідэалогія таксама.

У галіне эканомікі дамінуючым стаў працэс переразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці і фінансаў у прыватную ўласнасьць наменклатуры. Дзеля гэтага адпаведным чынам напісаны законы, прыняты шэраг падзаконных актаў, якія адчынілі дарогу неправавому, але «законнаму» рабаўніцтву дзяржаўнай маёмасьці, хабарніцтву і карупцыі.

Усё гэта адначасна з безгляднай палітыкай стрымліваньня і недапушчэньня рынкавых рэформаў і справакаванай інфляцыяй расейскага рубля (якім тут да сёньняшняга дня карыстаюцца) прывяло да стварэньня на Беларусі асноваў наменклатурна-мафіёзнай дзяржавы з тыповай для яе канцэнтрацыяй багацьцяў у руках вузкага кола каляўладных асобаў, манапалізмам і імкненьнем да таталітарных формаў дзяржаўнага кіраваньня, што выявілася ў планах стварэньня «прэзідэнцкай дыктатуры».

Упершыню такая спроба назіралася яшчэ за КПСС у маі 1991 г., калі камуністы рыхтаваліся да путчу. Яна правалілася, дзякуючы ўмелым дзеяньням дэпутацкай Апазіцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце. Цяпер, зайшоўшы ў беспрасьветны палітычны і эканамічны тупік, наменклатура вярнулася да гэтага плану.

Антынацыянальная палітыка старых структураў прывяла да зьяўленьня «дзікага рынку», да рынку дэфіцыту і перапрадажы, да своеасаблівага працэсу раскраданьня дзяржаўнай маёмасьці («прыхватызацыі») і, адначасна, да стагнацыі і кансерваваньня на Беларусі наменклатурна-адміністрацыйнай сістэмы. У апошні час пачаўся рэзкі спад вытворчасьці. Суседнія краіны, што ступілі на шлях рынкавых рэформаў, пачалі эканамічна пераганяць Беларусь. У той жа час перад нашай краінай зачыняюцца ўсялякія пэрспектывы.

Камуністычная сістэма ўлады, што рэліктава існуе на Беларусі, не прадугледжвае ніякага за сабой кантролю зьнізу, ніякай магчымасьці і законнага мэханізму зьмены парламенту і ўраду. У гэтым выяўляецца, дарэчы, адна з прыкмет яе запачаткаванай нелегітымнасьці.

У 1991 годзе пад націскам Апазіцыі БНФ быў прыняты Закон аб усенародным галасаваньні (рэферэндуме), які пачаў дзейнічаць з 1992 года. Апазіцыя выступіла з заклікам зьбіраць подпісы за правядзеньне рэферэндуму аб нечарговых выбарах парламенту і роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савета. Было сабрана больш чым 442 тысячы подпісаў і прынятае афіцыйнае рашэньне аб правядзеньні рэферэндуму. Аднак, 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўны Савет, груба парушыўшы закон, канстытуцыю, правы чалавека, забараніў правядзеньне ўсенароднага галасаваньня. Адбылося ня што іншае, як узурпацыя ўлады наменклатурай. Вярхоўны Савет пасьля гэтага перастаў быць легітымным органам, а яго законы і пастановы страцілі абавязковасьць. Безумоўна, што, каб лічыцца законамі, яны павінны быць пацверджаныя новым усенародна выбраным парламентам Беларусі.

Закон аб рэферэндуме—адзіны закон, паводле якога можна ажыцьцявіць перамену прадстаўнічай улады ў Беларусі. Гэтая магчымасьць была скарыстаная Народным Фронтам і дэмакратычнымі партыямі блёку «Рэферэндум». Дзьверы на выхад з тупіка адчыненыя. Але Вярхоўны Савет зачыніў іх. Пры гэтым ім была зробленая недарэчная палітзаява аб намеры правесьці выбары на год раней, у сакавіку 1994 года. Зразумела, што гэта тыповае прапагандысцкае ашуканства. Такія выбары немагчымыя, бо, як я ўжо казаў, няма закона, які б дазваляў правесьці нечарговыя выбары, а ў дзеючай савецкай канстытуцыі пра гэта нічога не сказана. Адзіны рэальны існуючы выхад з безнадзейнага становішча—гэта адмяніць незаконную пастанову аб забароне рэферэндуму і правесьці яго, альбо прыняць рашэньне, прапанаванае на рэферэндум, без правядзеньня рэферэндуму, што прадугледжана законам. На гэтай пазіцыі стаіць Народны Фронт. Рэферэндум аб нечарговых выбарах і роспуску вісіць над камуністычным Вярхоўным Саветам як дамоклаў меч.

Тым часам наменклатура прапанавала свой выхад са становішча, у якое сябе загнала,—прыняць новую Канстытуцыю, згодна яе прыняць новы (свой) выбарчы закон, потым, згодна прынятай Канстытуцыі, правесьці выбары прэзідэнта-кіраўніка выканаўчай улады і ўжо пасьля гэтага ажыцьцявіць выбары парламента, які, дарэчы, ня будзе працаваць пастаянна (гэта значыць, на ўзор цяперашняга Вярхоўнага Савета).



Што хоча дасягнуць наменклатура гэтым сваім планам? Па-першае, дэпутаты большасьці дэманструюць імкненьне выканаць сваю палітзаяву аб выбарах у сакавіку 1994 г. Па-другое, уводзяць сістэму «моцнай» прэзідэнцкай улады пры бясьсільным бутафорскім парламенце і ажыцьцяўляюць тым самым план «прэзідэнцкай дыктатуры».

Па-трэцяе, праводзяць выбары ў новы парламент па сваім наменклатурным законе. (Заўважу, што пры варыянце блёку «Рэферэндум» выбары павінны адбывацца па дэмакратычным законе, распрацаваным БНФ. Гэтае палажэньне вынесенае на рэферэндум). Па-чацьвёртае, уцякаюць ад маральнай, палітычнай і юрыдычнай адказнасьці за незаконную забарону рэферэндуму, за цынічнае растоптваньне правоў амаль паўмільёна выбаршчыкаў, бо фармальна здымаюць праблему, робяць яе неактуальнай, ды яшчэ ў дадатак пакідаюць сваю паклёпніцкую пячатку на дэмакратычных арганізацыях блёку «Рэферэндум».

Гэты план утрыманьня ўлады і ашуканства людзей наменклатура ажыцьцёвіць пры ўмове, калі зможа прыняць адпаведную Канстытуцыю Беларусі. Але ў тым і справа, што прыняць яе гэты Вярхоўны Савет практычна няздольны. Погляд на прэзідэнцкую ўладу, напрыклад, за апошняга паўгода наменклатурная большасьць Вярхоўнага Савета зьмяняла пяць разоў (у залежнасьці ад палітычнай кан'юнктуры). І гэта яшчэ не мяжа, бо ніхто зь іх ня думае пра дзяржаву Беларусь, пра яе народ, грамадзтва, пра яе будучыню і спосаб жыцьця. Занепакоеныя толькі адной задачай—утрымаць уладу і пратрымацца, а там можа КПСС ці Савецкі Саюз вернецца. Як кажуць, неверагодна, але факт. Так і думаюць.

Народны Фронт і Грамада выступаюць за парламенцкую рэспубліку, дзе можа выбірацца прэзідэнт як кіраўнік дзяржавы. Прынцыповы падыход выяўлены ў тым, што мы патрабуем спачатку выбараў у парламент. І толькі праз шэсьць месяцаў пасьля гэтых выбараў можна прыступаць да выбараў прэзідэнта. Такі падыход стварае ўмовы для дэмакратычнага разьвіцьця. Выбары прэзідэнта павінны адбывацца пры іншай уладзе. Калі ж дазволіць наменклатуры выбіраць прэзідэнта цяпер пры гэтым Вярхоўным Савеце, пры гэтым урадзе, пры існуючай рэліктавай сістэме мясцовых Саветаў, пры саўмінаўскім манапалізме на сродкі масавай інфармацыі, то можна не сумнявацца, што выберуць асобу, заўгодную наменклатуры. (Зрэшты, любы прэзідэнт у гэтай сістэме будзе цалкам залежны ад старых структураў). Можна не сумнявацца, што такі прэзідэнт пастараецца адпаведным чынам уплываць на выбары парламента. Можна не сумнявацца таксама, што паміж ім і новым парламентам узьнікнуць супярэчнасьці і палітычныя канфлікты, якія будуць пагражаць перарасьці ў крызіс і г. д. Стабільнасьці ў такіх варунках не прадбачыцца. Вось чаму нельга дапусьціць ажыцьцяўленьня планаў наменклатуры і яе маніпуляцыяў з прыняцьцем новай Канстытуцыі.

Беларускае грамадзства застаецца традыцыйна індэферэнтным да палітыкі. Сутнасьць і прычыны гэтай абыякавасьці зразумелыя. Гэта вынік акупацыйнай палітыкі генацыду і вынарадаваньня, ідэалагічнага і інфармацыйнага аббалваньваньня людзей. Нацыянальна несьвядомы чалавек адлучаны ад палітычнага жыцьця.

Пытаньне нацыянальна-культурнага адраджэньня зьяўляецца адной з галоўных, сутнасных, гістарычных задачаў нашага жыцьця і нашай палітыкі. Без нацыянальна-культурнага адраджэньня немагчымае само існаваньне беларускай нацыянальнай дзяржавы, эфектыўнае разьвіцьцё эканомікі і сацыяльнай сьферы, духоўнасьці і культуры. Гэта разумеюць і за гэта змагаюцца Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і ўсе дэмакратычныя партыі Беларусі. Дэмакратычныя палітычныя арганізацыі таксама падтрымліваюць рынкавую эканоміку, неабходнасьць рынкавых рэформаў, стаяць на пазіцыях умацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, падтрымліваюць яе нейтралітэт і бязьядзернасьць, вяртаньне да эўрапейскіх каштоўнасьцяў, выступаюць за збалансаваныя дачыненьні з усходам і захадам.

Недэмакратычны палітычны сьпектар Беларусі прадстаўлены партыямі і арганізацыямі камуністычнага накірунку, да якіх прымыкаюць нешматлікія і несамастойныя ўтварэньні прарасейска-імпэрскага чарнасоценнага гатунку і розныя фантомы накшталт «яцьвягаў», інсьпіраваныя старымі камуністычнымі сьпецслужбамі.

Трэба адзначыць, што на Беларусі адсутнічаюць якія б там не былі правярадыкальныя арганізацыі фашыстоўскага тыпу. Такая незавершанасьць палітычнай лінейкі мае свае прычыны. Аднак ня думаю, што гэтакі стан неяк дрэнна адбіваецца на беларускім палітычным жыцьці, хаця сама грамадзская прырода патрабуе, каб існавала нейкая процівага расьпераззаным левапенсіянерскім «экстрэмістам».

Увесь недэмакратычны сьпектар на Беларусі ёсьць «левы» і «чырвоны» з выразным чорным праімпэрскім адценьнем. Асноўныя пазіцыі, што аб'ядноўваюць гэтую частку людзей—нянавісьць да незалежнай Беларусі, да беларускай мовы, культуры і дэмакратыі. Яны выступаюць за аднаўленьне СССР, КПСС, Савецкай арміі і сацыялізму. Адмаўляюць рынкавы шлях разьвіцьця і дачыненьні з Заходняй Эўропай. Як і ўсе камуністы, гэтыя арганізацыі цяпер па-папулісцку сьпекулююць на сацыяльных цяжкасьцях, інфляцыі, дэградацыі ў эканоміцы і г. д. Яны маюць нязначную падтрымку сярод рабочых і служачых, мінімальную сярод моладзі і максімальную (больш паловы) сярод пенсіянераў, асабліва наменклатурнага, энкавэдзісцкага і ветэранскага гатунку, якіх на Беларусь за камуністычныя часы наехала даволі шмат (арганізацыі дэмакратычнага накірунку, дарэчы, карыстаюцца падтрымкай якраз у адваротным напрамку: найменш сярод пенсіянераў, найбольш у моладзі і г. д.).

Антыдэмакратычныя пракамуністычныя арганізацыі аб'ядналіся ў «Народны рух». (Нешта накшталт колішняга «інтэрфронта» ў Прыбалтыцы). Гэты антыбеларускі камуністычны «інтэрфронт» карыстаецца падтрымкай Савета Міністраў і дэпутацкай большасьці ў Вярхоўным Савеце, менавіта: пенсіянерска-ветэранскай групы «Саюз», «фракцыі камуністаў» і самай вялікай групы—наменклатурнага аб'яднаньня «Беларусь» (былой партгрупы) Групы дэпутацкай большасьці ўваходзяць у камуністычны «інтэрфронт» і праводзяць яго палітыку. Новыя «інтэры» і былыя наменклатурныя камуністы складаюць прыблізна 80 працэнтаў ад усяго складу Вярхоўнага Савета.

Палітычнае жыцьцё на Беларусі такім чынам характарызуецца поўнай і кардынальнай несумяшчальнасьцю (чаго няма ў іншых краінах і ўсталяваных грамадзтвах). Камуністычныя сілы, не прызнаючы беларускую дзяржаву, культуру і мову народа, суверэнітэт нацыі, выступаюць, фактычна, як антыдзяржаўныя партыі чужой краіны і падлягаюць безумоўнай забароне, нават калі не прымаць пад увагу дзесяткі мільёнаў замучаных, забітых і генацыд, што праводзілі камуністы. Аднак гэтыя партыі на Беларусі існуюць і вядуць сваю разбуральную працу, таму што іх пазіцыі выяўляе ўрад і большасьць у Вярхоўным Савеце.

На сёньняшні дзень эканоміку краіны, як я ўжо казаў, загналі ў тупік. Пачаўся рэзкі спад вытворчасьці, паскарэньне інфляцыі, нястрыманы скачкападобны рост цэнаў, прастой цэлых прадпрыемстваў, не хапае грашовай масы і г. д. Страх згубіць уладу, страх адказнасьці за сваю дзейнасьць і няведаньне, што рабіць, спарадзілі ў наменклатуры панічныя ідэі прадаць Беларусь, адмовіцца ад суверэнітэту і пайсьці пад пратэктарат Расеі. Яны сталі рыхтаваць гэты акт здрады сумесна з маскоўскімі камуністамі. Так узьнікла шумнае і крыклівае патрабаваньне заключыць эканамічны саюз з краінамі СНД і ўступіць зь імі ў вайскова-палітычны саюз—так званую «калектыўную бясьпеку». Большасьцю галасоў прынялі пастанову даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета падпісаць дагавор пра калектыўную бясьпеку. Аднак справа ўскладнілася тым, што камуністы ў Расеі, на якіх рабіла стаўку беларуская здрада, у чарговы раз пацярпелі паражэньне. Акрамя таго, наменклатура вельмі ж ужо просталінейна абышлася з паслухмяным ёй сьпікерам (ці як яны чамусьці кажуць «скіперам»), прымушаючы яго падпісаць дагавор пра калектыўную бясьпеку. Сьпікера бесцырымонна загналі ў кут, зь якога быў адзіны выхад—на рэферэндум. Нічога дзіўнага, што сп. Шушкевіч скарыстаў гэты выхад. (Пакуль скарыстаў).

Пагроза рэферэндуму, які не пакінуў бы наменклатуры ніякіх шансаў, канчаткова разьятрыла дэпутацкую большасьць, тых дэпутатаў, што ўжо бачылі сябе пад Расеяй. Каб запабегчы рэферэндуму, рашылі пазбавіцца ад Шушкевіча.




Гэтая акцыя была вельмі прыцягальнай для ўрадавай наменклатуры. Зьняўшы С. Шушкевіча, аўтаматычна хавалі пытаньне пра рэферэндум, атрымлівалі б кантроль над Кантрольнай палатай і КДБ, які ніяк ня могуць перападпарадкаваць Саўміну. Яшчэ больш павялічвалі б уплыў урада ў Вярхоўным Савеце, бо першы намесьнік старшыні В. Кузьняцоў, былы сакратар райкама, ёсьць член аб'яднаньня «Беларусь», а выбраньне В. Кебіча на месца С. Шушкевіча стала б цалкам магчымым.

Канчатковае і поўнае зьліцьцё выканаўчай і заканадаўчай структураў улады стварыла б унікальныя магчымасьці для хуткага і абсалютна бескампраміснага раскраданьня дзяржаўнай уласнасьці наменклатурай. Хапіла б літаральна некалькі месяцаў, каб пакінуць ад эканомікі адны галавешкі.

Фармальна зьняцьце С. Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савета не ўяўляе ніякіх цяжкасьцяў. Ён ня мае ніякай апоры. Ні Апазіцыя Народнага Фронту, ні іншыя дэмакратычныя дэпутаты яго не падтрымліваюць за згодніцтва, бесхрыбетнасьць і беспрынцыпнае ўгодніцтва перад камуністычнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце. С. Шушкевіч актыўна прычыніўся да такіх чорных яе справаў, як антызаконная забарона рэферэндуму 29 кастрычніка 1992 г. і аднаўленьне дзейнасьці КПСС-КПБ на Беларусі. С. Шушкевіч моцна вінаваты перад дэмакратамі, якія паднялі яго з невядомасьці і зрабілі галоўнай службовай асобай дзяржавы. Тым ня менш Апазіцыя БНФ, ад якой залежаў лёс С. Шушкевіча на пасадзе Старшыні, і іншыя дэмакратычныя дэпутаты спакойна ацанілі гэту перманентна парадаксальную сітуацыю і вырашылі падтрымаць С. Шушкевіча байкотам рэгістрацыі і галасаваньня, штучным стварэньнем адсутнасьці кворуму. Бо справа, як бачым, зусім не ў яго асобе, як бы крытычна да яе не адносіцца. Справа ў пагрозе незалежнасьці Беларусі. Ва ўсякім разе С. Шушкевіч—не наменклатура, не крадзе і адстойвае беларускую культуру.

Трэба дадаць, што найбольш разумныя, думаючыя прадстаўнікі наменклатуры зусім не зьбіраліся цяпер здымаць С. Шушкевіча, а толькі напалохаць, зламаць псіхічна, паставіць на калені і прымусіць быць паслухмяным. Ён ім патрэбны як шырма, як ахвярны казёл за грахі саўмінаўскай палітыкі, як праваднік, урэшце, іхніх задумак у «парламенце». Яны падрыхтавалі яму ролю падсадной дэмакратычнай качкі. Менавіта яны, гэтыя наменклатурныя палітыканы, і аддалі свае 27 галасоў за Шушкевіча, бо Апазіцыя і дэмакраты (разам каля 70 дэпутатаў) ня удзельнічалі ў галасаваньні. У выніку С. Шушкевіч ацалеў.

Зыходзячы са здаровай логікі, яму варта было б зрабіць рашучыя вывады і каваць жалеза, пакуль «працiўнік» падаўлены паражэньнем. Трэба выходзіць на рэферэндум аб лёсе нейтралітэту і аб нечарговых выбарах. Прытым трэба браць фармулёўку, вынесеную на рэферэндум блёкам дэмакратычных партыяў, і ставіць яе. Толькі так можна адкупіць сваю здраду і віну перад беларускай дэмакратыяй. Толькі так можна зламаць гэты крымінальны наменклатурны сход і выклікаць падтрымку ў людзей. На жаль, гэты чалавек наўрад ці здольны на рашучыя і асэнсаваныя дзеяньні. Ён, відаць, яшчэ не зусім зразумеў, што адбылося і ад чаго залежыць яго знаходжаньне на пасадзе. Зноў прапаноўвае нейкія выдумкі накшталт «канстытуцыйнай асамблеі» і нават мяркуе, што «стаў небясьпечнай фігурай». Што, прабачце, выклікае ўжо сьмех.

Найбольш верагодна, што застанецца балотнае «ўсё як было», быццам нічога не сталася. Пры такім дачыненьні ў наступны раз захаваць статус-кво ў Вярхоўным Савеце і не дапусьціць безразьдзельнага панаваньня намеклатурна-камуністычнай арды ня здолее ўжо і Апазіцыя. Нянавісьць да С. Шушкевіча можа стаць некантралюемай, што мы і назіралі на сесіі ў некаторых дэпутатаў.

Такім чынам, мы бачым, як дэградацыя вытворчасьці і эканамічныя праблемы, завязаныя на палітыку ўрада, пераасэнсоўваюцца ў праблемы геапалітыкі, неабходнасьць рэформаў і супраціўленьне ім выяўляецца як выбар геапалітычнай арыентацыі—на ўсход ці на захад. Канцэпцыя Народнага Фронту, прапанаваная яшчэ ў 1990 годзе і ўвасобленая ў Дэкларацыі аб незалежнасьці, зыходзіць з самаіснасьці беларускай дзяржавы, якая павінна імкнуцца да нейтралітэту і бязьядзернасьці, шукаючы баланс дачыненьняў паміж усходам і захадам. Адсюль арганічна вынікае нашая ідэя (не ўспрынятая, аднак, наменклатурай) аб каардынацыі палітычных і эканамічных дзеяньняў краінаў, разьмешчаных паміж Балтыйскім і Чорным морамі. У гэтых краінах аналагічныя праблемы з усходам і захадам, блізкі ўзровень эканамічнага і культурнага разьвіцьця, даўнія гістарычныя традыцыі і ўзаемасувязі. Садружнасьць гэтых дзяржаў (БЧС) магла б паспрыяць умацаваньню гарантыяў іхняга суверэнітэту, запабегчы некаторым эканамічным цяжкасьцям і стаць чыньнікам умацаваньня стабільнасьці і раўнавагі ў цэнтральна-усходняй Эўропе.

Асобага разгляду патрабуе становішча ў галіне навукі і культуры. Яно пагоршылася. Прычына, перш за ўсё, у адсутнасьці дзяржаўнай палітыкі нацыянальна-культурнага адраджэньня, у працягу адкрытай антыбеларускай дзейнасьці. У гэту дзейнасьць уключыліся сьвядома ці несьвядома розныя заснаваныя былымі камуністычнымі функцыянерамі камерцыйныя арганізацыі, выдавецтвы, забаўляльныя і гандлёвыя ўстановы і т. п. Калі ў БССР, напрыклад, агульны тыраж беларускіх кніг даходзіў аж да 4 працэнтаў, то цяпер—сотыя долі працэнта. Беларуская дзіцячая літаратура практычна перастала выдавацца. Якое ўжо тут адраджэньне. Бурнае і некатралюемае распаўсюджаньне рускамоўнай маскультуры самага нізкапробнага, правакацыйна антыграмадскага і антымаральнага накірунку пераўзыходзіць усе межы, выклікае жах і трывогу за лёс нашай культурнай будучыні.

Па ўсіх галоўных накірунках існаваньня незалежнай Беларусі праводзіцца мэтанакіраванае тармажэньне. Напрыклад, робіцца ўсё, каб не дапусьціць ці, прынамсі, максімальна зацягнуць пераход на ўласную нацыянальную валюту. Нават талерам рашылі яе не называць, а на расейскі манер «рублём».

Ярасна супраціўляліся стварэньню беларускага войска, Міністэрства абароны, прыняцьцю прысягі і г. д. Потым вымушаны былі згадзіцца. Але замест стварэньня беларускага войска закансервавалі на Беларусі Савецкую армію з усімі атрыбутамі—чырвонымі сьцягамі, формай, дзедаўшчынай, рускай мовай і нянавісьцю вышэйшага афіцэрства да незалежнай беларускай дзяржавы. Урад, відаць, спадзяецца мець з гэтай арміі апору на выпадак чарговага камуністычнага путчу, а Беларусі рыхтуе ролю Вандэі. Як бы там ні было, але патрыятычна настроеных афіцэраў-беларусаў выганяюць з гэтага «беларускага» войска. Яны там не патрэбныя.

Не сьпяшаюцца ўпарадкаваць дзяржаўныя межы. Яны плануюцца ўсюды, акрамя як з Расеяй. Ну, вядома ж, уступаючы ў ваенны саюз, трэба рыхтаваць на Беларусі ўмовы да інкарпарацыі яе ў Расею. Хто ж гэтага не разумее. Трэба ж трымаць адчыненай мяжу для расейскага рубля і для расейска-беларускай гандлёвай мафіі.

Сімптаматычна, што нават закон аб дзяржаўнай службе адмовіліся прымаць, каб ня браць на сябе адказнасьці за працу, каб не вывучаць беларускую мову і г. д.

І што зусім неверагодна—у Вярхоўным Савеце камуністы адкрыта зьневажаюць дзяржаўныя сімвалы—герб Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг.

Такая вось незалежная дзяржава Беларусь і такая вось у ёй улада. Чаго ад яе можна спадзявацца? Повадам для III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі стаў намер гэтага антынароднага ўраду склікаць зьезд беларусаў сьвету, які хацелі правесьці як чарговы кангрэс. Ці ня дзіва? Тыя, што амаль пяцьдзесят гадоў найбрыдчэйшым чынам абплёўвалі беларускую эміграцыю, паклёпнічалі на яе і працягваюць паклёпнічаць, цяпер зьбіраюць зьезд, запрашаюць тых, каго называлі «фашыстамі» і «вырадкамі», «предателями родины», на Бацькаўшчыну, выдзяляюць вялікія сродкі. У чым прычына? Прычына простая. Спачатку думалі прыкінуцца незалежнікамі і дэмакратамі і пры дапамозе арганізацыі «Бацькаўшчына», нашпігаванай кадэбісцкімі «сексотамі» і «стукачамі», ды на хвалі эміграцкай эйфарыі дамагчыся перадачы паўнамоцтваў і дакументаў Рады БНР гэтаму камуністычнаму ўраду Беларусі (сфармаванаму, дарэчы, яшчэ на бюро ЦК КПБ-КПСС). Гэтак камуністам удалося ашукаць украінцаў. Цяпер, калі стала зразумелым, што зь беларусамі такі фокус не атрымаецца, хочуць прыўлашчыць сабе павагу, заслужыць давер, атрымаць прызнаньне сваёй легітымнасьці ад беларускай эміграцыі, а тым самым і падтрымку сваёй антынацыянальнай палітыкі, дараваньне былых злачынстваў і сьмяротных грахоў перад беларускім народам.

Зрэшты, можа былыя камуністы пакаяліся і хочуць загладзіць сваю віну перад эміграцыяй? Не. Такога не відаць. Наадварот, у саўмінаўскіх газэтах за два тыдні да зьезду пачалася брудная кампанія. Ахайваюць Саюз Беларускай Моладзі, называюць яго фашыстоўскай арганізацыяй, паклёпнічаюць на беларускіх студэнтаў, якія хацелі арганізаваць інфармацыйную юбілейную вечарыну, прысьвечаную 50-гадоваму юбілею СБМ. «Патриоты славят фашизм»,—вяшчае «Советская Белоруссия»—пракамуністычны саўмінаўскі афіцыёз. У давяршэньне ўсяго беспрэцэдэнтны выпадак: старшыня ўраду В. Кебіч сьпецыяльным рашэньнем (дарэчы, не пагрунтаваным на законе) забараняе студэнцкую вечарыну. Вось дык урад!

У гэтым жа нумары газэта друкуе атрыкул пра Міхася Белямука, які, між іншым, ужо ня раз прыязджаў на Беларусь. Пра яго напісана: «...страшный человек... нелюдь», «ученый фельдфебельского профиля», «пресмыкался в верноподданичестве фюреру». «Таково истинное лицо одного из представителей белорусской диаспоры за океаном. Из ее «черной сотни». Вось так. А «Советская Белоруссия», між іншым, гэта рупар ураду. Проста так такія артыкулы напярэдадні зьезду не зьяўляюцца. Урад па-камуністычнаму намякае: мы вас запрашаем і шануем, але ведайце, што вы дрэнь. Пры патрэбе можна і пасадзіць. Класічны ўзорчык чыноўніцка-бальшавіцкай этыкі.

Аналіз становішча паказвае, што Беларусь перажывае крытычны час сваёй гісторыі. Незалежнасьць, падараваная нам Богам за стагодзьдзі пакутаў, паўстаньняў і барацьбы, за цярпеньне і цёмную ноч бальшавіцка-фашысцкага генацыду, за ўсе нашыя ахвяры, прынесеныя на алтар Бацькаўшчыны і свабоды, гэтая незалежнасьць трапіла ў рукі нашых нішчыцеляў і адшчапенцаў. Ці здолеем захаваць яе, адстаяць разам у нашым доме і па ўсёй зямлі? Ці адродзім нашу краіну, нашу дзяржаву, культуру, наш хрысьціянскі народ? Вось дзе задача. Ведаем, што для нас, беларусаў, дзяржава—найвялікшы сродак нацыянальнага адраджэньня і найвышэйшая культурная каштоўнасьць. Пры існуючай нелегітымнай уладзе яна пад пагрозай.

Беларусы ўсяго сьвету павінны аб'яднаць свае намаганьні і сілы дзеля ўмацаваньня нашай дзяржавы, яе незалежнасьці і эканомікі, навукі і культуры.

Нагадваючы пра нелегітымнасьць Вярхоўнага Савета, павінен адзначыць, што легітымнасьцю валодае якраз Рада БНР. Трэба прыкласьці намаганьні, каб умацаваць Раду, гарантаваць яе палітычнае функцыянаваньне. Мяркую, што трэба прадугледзець працэдуру, каб у пэўны момант гісторыі ці верагоднага безуладзьдзя мець магчымасьць правесьці выбары (ці давыбары) у Раду БНР ад палітычных арганізацыяў метраполіі, (г. зн. Беларусі), сфармаваць урад і прыступіць да выкананьня абавязкаў. Упэўнены, што сьвятая справа Беларускай Народнай Рэспублікі можа яшчэ ня раз паслужыць нашай дарагой Бацькаўшчыне, нашаму народу, найдаражэйшай айчыне Беларусі.

**Даклад, прачытаны на III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі 6 ліпеня г. г.**

## Каму патрэбны ветэраны?

Я пачаў ваяваць у ліпені 1941 года. Удзельнічаў у баях пад Дзямянскам і Ст. Русай. Потым у складзе 2-га Украінскага фронта прымаў удзел у Корсунь-Шаўчэнскаўскай і Ясска-Кішынёўскай аперацыях. Дзейнічаў у тыле ворага пры захопе плацдармаў на берагах Дняпра, Днястра, Прута. Потым удзельнічаў у баях за Будапешт і Прагу. Яшчэ да афіцыйнага аб'яўлення вайны з Японіяй я ўжо ў складзе дэсантнай групы выконваў баявое заданне ў тыле японскай Квантунскай арміі.

За баявыя дзеянні ўзнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі і чатырма баявымі медалямі. Маю 18 пісьмовых падзяк ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Знаходзячыся ў дзеючай арміі падчас баявых дзеянняў атрымаў інваліднасць і шэраг розных захворванняў. Гэта патрабуе нармальных жыллёвых ўмоў, якіх няма. І нікога з Віцебскага гарвыканкама не цікавіць, у якіх варунках я жыву. На пасяджэнне жыллёвай камісіі, што разглядала маё пытанне, мяне не запрасілі. Маю першую заяву наконт паляпшэння жыллёвых умоў чыноўнікі дзесьці згубілі і я вымушаны быў напісаць другую.

Адпраўляючы нас на заданне, нам казалі: «Радзіма вас ніколі не забудзе!» Але атрымліваецца, што нашыя заслугі нікому не патрэбны. Цяпер у пашане іншыя «героі».

**Канстанцін ПАЎЛАЎ,**
**інвалід вайны, г. Віцебск.**

## Знішчалі і народ, і святы

Купалле.

Хто не ведае такога свята? Колькі песняў купальскіх, колькі павер'яў! З гэтым святам звязана імя нашага знакамітага паэта Янкі Купалы. Усё гэта ў памяці народнай як нешта святое, роднае.

У той жа час, як толькі надыходзіць Купалле, многіх ахоплівае трывога. Што на гэты раз учыняць «купальскія» варвары?

Летась падобнае пытанне задавалі і шматлікія садаводы дачнага пасёлка Уланавічы. І што? Разгул хуліганаў быў такім, што некалькі гадзін не маглі рухацца гарадскія аўтобусы. Дарогу ім перакрылі спіленыя дрэвы.

Сёлета хуліганскія выбрыкі паўтарыліся. Зламаны на даволі значным адрэзку плот вучэбнай гаспадаркі педінстытута, напалову спалены абсталяваны прыпынак.

Купалле?

**У. ЖЫГУЛАЎ.**

## Напісаць можам, а вымавіць?

Ад нядаўна аб'явы на віцебскіх аўтобусных вакзале і станцыі робяцца на дзяржаўнай мове. І хоць часам у дыктараў праскокваюць русізмы, такое пачынанне можна толькі вітаць. Радуе, што і афармленне чыгуначнага вакзала пераважна беларускамоўнае. Тут важна не спыняцца на зробленым, а працягваць выкананне Закона «Аб мовах». Магчыма, кіраўніцтву гарадскога пасажырскага транспарту варта ўзяць гэты прыклад, як раней казалі, на ўзбраенне. Каб урэшце зрабіць аб'яўленне прыпынкаў поўнасцю беларускамоўным.

Зразумела, на пачатку некаторым вадзіцелям будзе нялёгка. Трэба ім «падкінуць» адпаведныя «шпаргалкі», а мо й матэрыяльна заахвоціць тых, хто аб'яўляе прыпынкі па-беларуску.

А то атрымліваецца дзіўная сітуацыя. Трафарэты з указаннем маршрутаў, вулічныя шыльды з назвамі прыпынкаў на беларускай мове, а вадзіцелі грамадскага транспарту аб'яўляюць прыпынкі па-руску.

**А. Б.**

**ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ!**

**Прыносім прабачэнне за тое, што з-за браку газетнае плошчы спісы ахвяраў віцебскай турмы СД у гэты нумар не ўключаны. У наступным выпуску штотыднёвіка аднавім іх друкаванне.**

## Спадзяюцца на поспех

**У навуковым плане Віцебск—горад яшчэ не дастаткова вывучаны археалагамі. Таму й, відаць, апошнія гады сталіся часам даволі актыўных доследаў даўніны, што захоўвае ў сваёй зямлі Старое места.**

На мінулым тыдні пачаліся археалагічныя раскопкі ля рэшткаў Дабравешчанскае царквы на тэрыторыі старадаўняга Ніжняга замка. Імі кіруе кандыдат навук Інстытута гісторыі АН, менчанка Таццяна Бубенька. «Што тут знойдзем—цяжка сказаць,—гаворыць яна,—Але мы спадзяемся на поспех, бо капаем на мейсцы ўзнікнення горада».

**К. СТУСЬ.**



Замак у Міры. Мал. Ю. Якімовіча.



У рамках культурнае праграмы «Славянскага базара» ў віцебскай Музычнай гасцёўні адчынілася выстава мастакоў-керамістаў Ігара Вараб'ёва і братоў Паўла ды Андрэя Навічэнкаў. Самавары, сервізы, распісныя вазы—вось далёка не поўны пералік твораў, прадстаўленых у экспазіцыі.

Адкрыццю выстаўкі дапамагло МП «Прэстыж», пастаянны фундатар творчасці майстроў.

М. К.

## Ці загучыць «Дыялог...» па-беларуску?

Выйшаў другі нумар першага й адзінага ў Віцебску навуковага часопіса «Дыялог. Карнавал. Хранатоп».

Выданне, прысвечанае доследам біяграфіі і тэарэтычнай спадчыны М. Бахціна, зразумела, змяшчае матэрыялы аб творчасці сусветна вядомага вучонага. У прыватнасці, упершыню друкуе ягоныя лекцыі па рускай літаратуры (1922—1927), падае агляд і рэцэнзію шэрагу даследаванняў па тэматыцы, звязанай з Бахціным. Паведамляе «Д. К. Х.» і пра Бахцінскі семінар у Маскве. Д. Сімановіч піша пра мінулагоднія Шагалаўскія дні ў Віцебску.

Гэты нумар квартальніка з'явіўся, дзякуючы падтрымцы й дапамозе аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама, кампаніі «ВітАСКА» і менскай фірмы «ПРОСТ Лтд». Падрыхтаваны ягоны беларускамоўны варыянт. Аднак... аднак не стае грошай, каб яго выпусціць. І зараз рэдакцыя часопіса шукае фундатараў, якія б паспрыялі яго выхаду.

Ю. ТУТЭЙШЫ.

## І паўгода не прайшло

Крыху больш пяці месяцаў працуе пастаўская мытня. За гэты тэрмін прадухілены вываз тавараў і маёмасці на суму 3,6 млн. рублёў, а таксама паўтара мільёна рублёў, 2300 долараў ЗША ды 3 тысяч нямецкіх марак. Пры спробе ўвозу ў краіну грамадзянамі дзяржаў нерублёвай зоны затрымана й перададзена ў фонд дзяржавы 2 млн. рублёў.

Ю. СЯРГЕЕЎ.



Бясплатныя аб'явы, віншаванні, спачуванні. Тэл. у Віцебску 37-28-44.

Хто цікавіцца дзейнасцю Беларускай сялянскай партыі, калі ласка, тэлефануйце ў Менску: 34-38-35 і 55-85-70 (у любы час). Лісты з заявамі аб уступленні ў партыю і фотаздымкам 3Х4 дасылайце на адрас: 220108, Менск, а/с 333.

«Выбар» мае для ксэракапіраваньня кнігу «МЕНЕДЖМЕНТ» (на расейскай мове), 20 лекцыяў Герхарда Вігунта «Рынкавая сацыяльная эканоміка» (на нямецкай мове).

***

Прымаю замовы на распрацоўку і выраб керамічных сувенірных плакетак, медалёў. Тэл. 4-18-57 (Міхал).

## Падзяка

Шчыра ўдзячны жыхару Докшыц І. Фурсевічу за грашовае ахвяраванне ў рэдакцыйны фонд «Выбара».

## Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня

### Серада, 21 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.30 і 21.40. «Дзяжурная аптэка».
10.30. «Настаўнік».
13.40. «Доўгая дарога ў дзюнах». 7-я серыя.
15.05. «Вяселле Крачынскага». 2-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

8.20 і 18.00. «Проста Марыя».
10.20 і 20.40. «Азбука кахання».
11.20. «Госця з будучыні». 4-я серыя.
12.25. «Шлях гераіну». 4-я серыя.

**Канал «Расія»**

11.10 і 19.25. «Санта-Барбара».
13.25. «Пунсовыя макі Ісык-Куля».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

7.15 і 23.30. «Русь спрадвечная». 1-я і 2-я серыі.
8.50. «Мая другая мама».
12.50. «Чаромушкі».

### Чацвер, 22 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.40 і 21.40. «Дзяжурная аптэка».
10.35. «Чужая бацькаўшчына».
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 1-я і 2-я серыі.

**Канал «Астанкіна»**

8.40 і 18.00. «Проста Марыя».
10.20. «Азбука кахання».
11.20. «Госця з будучыні». 5-я серыя.
12.25. «Шлях гераіну». 5-я серыя.

**Канал «Расія»**

10.50 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

7.10. «Русь спрадвечная». 2-я серыя.
20.55. «Мая другая мама».

### Пятніца, 23 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

9.30. «Дзяжурная аптэка».
10.45. «Маці Ісуса».
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 3-я і 4-я серыі.
22.30. Пасля «Славянскага базара» і НІКі «Арфей» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

8.20. «Майскі снег».
11.50. «Шлях гераіну». 6-я серыя.
12.40. «Дробязі жыцця». 5-я і 6-я серыі.
15.35. «Белы ікол».
20.55. «Суіні» (Вялікабрытанія). 4-я серыя.

**Канал «Расія»**

11.10. «Санта-Барбара».
16.55. «Гонка на выжыванне».
19.25. «Афоня».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.25. «Мая другая мама».
14.40. «Родная кроў».
23.00. «Забойства» (Вялікабрытанія).

### Субота, 24 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 5-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

18.50. «Рыцары Х'юстана» (ЗША).
21.10. «Блакітнае і шэрае» (ЗША). 4-я серыя.

**Канал «Расія»**

11.00. «Мой малодшы брат».
23.35. «Як цені мітусяцца ў навальніцу» (ЗША)

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.35. «Забойства» (Вялікабрытанія).
11.00. «Дзіўныя людзі».
15.15. «Вязень замка Іф».
20.45. «Мая другая мама».
23.10. «Каменная душа».

### Нядзеля, 25 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

21.00. «Сон у руку, ці Чамадан».

**Канал «Астанкіна»**

Мастацкіх фільмаў няма.

**Канал «Расія»**

19.25. «Ліпеньскі дождж».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

9.40. «Дзівак з 5«Б».
16.20. «Ступень рызыкі».

## ВІЦЕБСКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ДЫЯЛОГІ

### Пераблыталі корні

Скажыце, калі ласка, чаму беларускія дыктары і палітыкі так упарта кажуць «ПАРТКОМЫ», «РАЙКОМЫ», «АБКОМЫ», а не «ПАРТКАМЫ», «РАЙКАМЫ»?

Напэўна таму, што яны думаюць, што іншыя часткі гэтых слоў маюць корні не ад слова «КАМІТЭТ», а ад слова «КОМІКІ».

—А чаму на шыльдах магазінаў бачым: «ПРОМТОВАРЫ», а не «ПРАМТАВАРЫ»? Няўжо зноў пераблыталі корні?

—Так і ёсць! Гандляры ўпэўнены, што складанае слова на шыльдзе мае паходжанне ад рускіх слоў «ПРЕМ, ТОВАРИЩИ», хаця правільней было б напісаць «ПРЫМТАВАРЫ»

—«ПРЫМ» ад слова «ПРЫМА»—першагатунковыя?

—Ды не. Прымітыўныя.

***

Дэпутат камуністычнай большасці ВС Беларусі запытаў сацыёлага:

—Што кажуць у народзе аб камуністычнай ідэі і яе прыхільніках?

—Нецэнзурныя словы апушчаць?

—Канешне.

—Тады—нічога.



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА

●

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Валянцін АРЛОЎ
Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ
Васіль ІГНАЦЕНКА
Юры ЛАЎРЭНАЎ
Ларыса МІХНЕВІЧ
Міхась ПАЎЛАЎ
Уладзімір ПЛЕШЧАНКА
Леанід ТАМАРОВІЧ
Ігар ЦІШКІН

●

Мастак Р. Клікушын.
Фотаздымкі М. Міхайлава.
Адрас рэдакцыі: 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.

Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.

Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Выдаецца з кастрычніка 1991 г.

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 20.09.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

Цана 5 руб.